

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№21 (1038) 31 студзеня 1995 г. Аўторак. | Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. | Тыраж 541972 экз. | Кошт у розніцу — 150 руб.

## Беларусь знает и помнит, что такое война. Беларусь скорбит о всех погибших в Чечне и осуждает войну. Беларусь не хочет и не будет воевать. Нашим сынам предстоит возродить Беларусь.







## Я это видел

Грозный в эти дни, наверное, мало чем отличается от Сталинграда 1942 года. Большинство зданий повреждено или разрушено, на улицах полно трупов, многие из которых уже полусъедены собаками. И, несмотря на достаточно бодрые сообщения официальной российской прессы, — ситуация далека от подконтрольной федеральным войскам.

Любой человек, вышедший из подвала дома или бомбоубежища, может стать жертвой ожесточенного обстрела всеми видами оружия как с одной, так и с другой стороны.

В подвале одного дома находятся российские солдаты, соседний дом по той же улице занят "дудаевцами".

Федеральные войска почти круглосуточно ведут "обработку" не контролируемых ими районов из установок "Град", минометов, используются запрещенные во всем мире шариковые, "игольчатые" бомбы. Регулярно в небе неожиданно возникает российский штурмовик и в пике наносит очередные смертоносные ракетные удары по местам наибольшего скопления людей.

Основными жертвами этих беспорядочных обстрелов, как правило, становятся мирные жители. В основном это люди, которые не имеют средств для выезда из города, или те, кому некуда ехать.

Пытаясь проехать на бронированном автомобиле телекомпании Рейтер в район боевых действий, но остановленные шквальным обстрелом, мы свернули во двор жилого дома по улице Ленина. Из подвалов домов выходили изможденные люди, не имевшие по три дня крошки во рту.

По дороге в Грозный мы стали свидетелями атаки российского штурмовика на стратегический объект особой важности — животноводческую ферму. Было восемь утра — час, который стал последним для проводившей в этот момент утреннюю дойку коров доярки. В центре фермы по кругу лежали восемь—десять убитых животных, некоторые из них еще дышали.

Оператор чешского телевидения прибыл в расположенный в 30 километрах от Грозного город Шали через 15 минут после того, как в субботний день на автомобильный базар города была сброшена 500-килограммовая бомба. Более 50 человек было убито, еще 45 скончались от ран в течение нескольких часов.

Регулярно российские самолеты бомбят горные чеченские селения, где, по их предположению, собираются "дудаевские" боевики.

Наибольшее количество жертв этой войны — мирное население и российские солдаты. Ополченцы Дудаева, прекрасно знающие каждый закоулок города, гибнут меньше всего.

По мнению большинства западных военных журналистов, с которыми я проживал в приграничном с Чечней дагестанском городке Хасавюрт, война Россией фактически уже проиграна. К тому же, по их мнению, такой жестокой войны никто из них не видел ни в Ираке, ни в Югославии, ни в Карабахе, ни в Сомали, ни в Приднестровье.

Каждое горное селение Чечни имеет по нескольку сотен будущих воинов — мужчин, проживающих в этих селах. Уже сейчас в горах собирается огромная армия сопротивления. Взятие российскими войсками Грозного, ставшего уже почти мертвым городом, ничего не решит в этой бесславной войне.

Фотосъемки велись в основном со стороны районов Чечни, контролируемых Дудаевым, так как работа журналистов в российских войсках, за исключением военного телевидения, в те дни была запрещена Павлом Грачевым.

**Виктор ДРАЧЕВ.**
**Фото автора.**













На сесії Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Парламент дазволіў ураду падпісваць дагаворы з іншымі краінамі. Але толькі міжурадавыя

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Вельмі часта бывае, што той ці іншы дэпутат лічыць пытанне, па якім ён выказваецца, самым галоўным ў парадку дня. А потым, калі дзень канчаецца, становіцца ясна, што такіх "галоўных" пытанняў было вельмі шмат. Але ўчора Лявонцій Зданевіч трапіў у дзесятку. Нельга не пагадзіцца, што праблема раздзелу паўнамоцтваў паміж парламентам і Кабінетам Міністраў на сённяшні дзень адна з найгалоўнейшых. А менавіта гэта праблема ўзнікла, калі падчас абмеркавання законапраекта "Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь" дэпутаты пачалі выказвацца па артыкулу, прапанаванаму Іванам Цярэшкам. Цяжка шукалася фармулёўка тых правоў, якія мае Кабінет Міністраў у перагаворным працэсе з прадстаўнікамі іншых краін. У спрэчках прынялі актыўны ўдзел Уладзімір Новік, Яўген Новікаў, Галіна Сямдзянава, Уладзімір Станкевіч. Нават Старшыня Вярхоўнага Савета не ўстрымаўся ад некаторых слушных заўваг. У выніку 181 голас быў пададзены за фармулёўку "Кабінет Міністраў праводзіць перамовы і заключае міжурадавыя пагадненні... у межах кампетэнцыі", дзе слова "міжурадавыя" з'явілася замест "міжнародныя". Такі вынік сапраўды пацвярджае, што гэта было адно з асноўных пытанняў, бо за ім абавязкова пацягнецца шлейф новых спрэчак вакол нядаўніх дамоўленасцей з Расіяй. Вядома, што закон адваротнай сілы не мае, і тым тэкстам, якія ўчора быў прыняты, наўрад ці ўдасца "падчапіць" Кабінет Міністраў за перавышэнне яго кампетэнцыі. Але прыхільнікі таго погляду, што Міхаіл Чыгір "не меў рацыі", калі падпісваў дакументы ў Маскве, бо парушаў Канстытуцыю, у якой права падпісваць міжнародныя пагадненні дадзена толькі Прэзідэнту, зараз набываюць яшчэ адзін аргумент "за". Больш таго, цяпер ім лягчэй будзе патрабаваць ратыфікацыі пагадненняў у парламенце. Нагадаю, што некаторыя яго кіраўнікі, напрыклад, Вячаслаў Кузняцоў, ужо давялі да журналістаў вынікі юрыдычнай экспертызы гэтых дакументаў, у якіх сказана, што ратыфікацыя не патрэбна. Але наўрад ці гэта пытанне не ўзнікне зноў. Карацей кажучы, супярэчлівасцей хапае, а значыць, апошнія месяцы работы Вярхоўнага Савета будуць вельмі цікавымі.

Нагадаю, што тыя спрэчкі вяліся па прапановах Івана Цярэшкі, які выступаў за больш шырокае вызначэнне знешнепалітычных паўнамоцтваў Кабінета Міністраў. Іншыя прапановы па законапраекту зрабілі дэпутаты М.Крыжаноўскі, І.Някрасаў, У.Станкевіч. Нямала пісьмовых заўваг даслаў і Прэзідэнт, але палавіне з іх не пашанцавала. Напрыклад, не была прынята ўстаўка ў чацвёрты артыкул, якая давала Кабінету Міністраў правы на "прадастаўленне льгот па падаткаабкладанню асобным прадпрыемствам, установам, арганізацыям; устанаўленне санкцый у дачыненні да прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый за парушэнне заканадаўства..." Калі мець на ўвазе такую праблему, як, напрыклад, стварэнне асобых эканамічных зон і наданне ўраду паўнамоцтваў для надзялення гэтых зон нейкімі асобымі правамі і льготамі, каб прывабіць інвестараў, то ўчарашняе рашэнне парламента закрывае ўрадавае "акно ў Еўропу". Але калі ўлічыць, што праз гэта "акно" могуць завітаць да нас не толькі добрыя людзі, але і зладзеі, рашэнне сканцэнтраваць адказнасць у адных руках мае сэнс. Пытанне толькі ў тым, ці здольны будзе Вярхоўны Савет праводзіць аператыўнае рэгуляванне такіх складаных праблем. Мы і так ужо адсталі ад усяго свету ў справе рэфармавання эканомікі.

Яшчэ адзін вельмі цікавы і вельмі кароткі закон прыняў учора парламент. Яго назва: "Аб суадносінах актаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія маюць юрыдычныя вынікі". Па сутнасці, ён коратка адказвае на пытанне, ці павінен Прэзідэнт выконваць пастановы парламента. Так, згодна з артыкулам другім, павінен. Нагадаю, што гэтая праблема ўзнікла не на пустым месцы, што адна з апошніх пастаноў парламента, ад 23 снежня 1994 года, Прэзідэнтам выканана не была. Мяркую, што і зараз яго юрысты знойдуць аргументы, каб падтрымаць асабісты прэзідэнцкі погляд на праблему.

І ў сувязі з гэтымі спрэчкамі нагадаю прамову дэпутата Уладзіміра Шаўцова, які ў "Розным" казаў пра трагічны стан, у якім апынуліся пенсіянеры, і аб віне парламента за гэта становішча. Дадам ад сябе: не толькі парламента — усёй працаздольнай, актыўнай часткі насельніцтва, што столькі часу праводзіць у спрэчках і бойках за свой погляд, за сваю праўду. Канешне, тыя спрэчкі патрэбны, бо без іх нам не выйсці на шлях паразумення і сапраўдных рэформ. Але... Калі апошні раз мы бачылі вочы старых? Калі апошні раз дапамагалі бабульцы перайсці дарогу? Ці памятаем, калі ўступілі чаргу ветэрану? Усё гэта таксама важныя пытанні. Таксама наша кампетэнцыя...

Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб узнагароджанні Прышчэпы В.Р. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

За шматгадовую плённую работу ўзнагародзіць эканамічнага саветніка старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь ПРЫШЧЭПУ Васіля Рыгоравіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

25 студзеня 1995 г., г.Мінск. N 3539-XII

### Аб узнагароджанні групы ваеннаслужачых Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

За дасягнутыя поспехі ў баявой падрыхтоўцы і значны ўклад у справу выхавання вайскоўцаў узнагародзіць Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

КАПІЦЫНА Юрыя Пятровіча — падпалкоўніка.
НІКІЦІНА Аляксея Аляксеевіча — падпалкоўніка.
СКАЧКОВА Аляксандра Ільіча — гвардыі палкоўніка.
ШАЎБУНОВА Сяргея Пятровіча — палкоўніка.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

25 студзеня 1995 г., г.Мінск. N 3542-XII

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

## Пра што дамовіліся прэм'еры трох краін у Маскве?

*Маскоўскія журналісты і палітолагі ледзь паспяваюць паварочваць галовы то ў адзін, то ў другі бок: так хутка мяняюцца накірункі знешняй палітыкі Крамля. Не паспела высахнуць, як кажуць, чарніла пад тузінам дакументаў, падпісаных у студзені ў Мінску, як зноў на чарзе руска-беларуская тэма, але цяпер ужо ў Маскве...*

У мінулую суботу ў расійскім Белым доме былі падпісаны важныя міжнародныя дакументы. Важныя не толькі для асобных дзяржаў. І тады тым больш незразумела, чаму падрыхтоўка іх трымалася ў такім строгім сакрэце. На брыфінгу пасля падпісання дакументаў было з дзесятак карэспандэнтаў, якім паспелі паведаміць аб стварэнні "новага саюза".

Калі гаварыць афіцыйнай мовай, у Маскве адбылася сустрэча кіраўнікоў урадаў трох дзяржаў СНД — Беларусі, Казахстана, Расіі. У выніку перамоў былі падпісаны сумесная Заява прэм'ер-міністраў Рэспублікі Беларусь М.М.Чыгіра, Казахстана — А.М.Кажэгельдзіна і старшыні ўрада Расійскай Федэрацыі В.С.Чарнамырдзіна, Мемарандум аб удзеле ў трохбаковым мытным саюзе іншых зацікаўленых дзяржаў эканамічнага саюза, Пратакол па рэалізацыі дамоўленасцей аб далейшым пашырэнні і паглыбленні ўзаемнага супрацоўніцтва, Праграма дзейнасці ўрадаў трох рэспублік па рэалізацыі дамоўленасцей аб узаемным супрацоўніцтве.

Пасля цырымоніі падпісання старшыня ўрада Расіі В.С.Чарнамырдзін сказаў журналістам так:

— Мы ў снежні і студзені падрыхтавалі дакументы аб адзіным мытным саюзе. Спачатку падпісалі дакумент з Беларуссю, а затым з Казахстанам. А зараз усе тры дакументы прывялі да аднаго назоўніка. Паміж рэспублікамі хутка не будзе бар'ераў, а сумесныя мытні будуць на знешніх рубяжах. Мы таксама дамовіліся, што адзінай мытнай мовай будзе руская...

У час брыфінгу карэспандэнт "Народнай газеты" задаў пытанне беларускаму віцэ-прэм'еру М.У.Мясніковічу:

— Скажыце, калі ласка, як праходзілі перамовы перад падпісаннем, ці ўсё было гладка, ці былі праблемы?

— Ну, спачатку пра другую частку пытання. Ва ўсіх дакументах, што былі падпісаны 6 студзеня ў Мінску і сёння ў Маскве, падкрэсліваецца адкрытасць для ўступлення ў саюз усіх дзяржаў СНД. Такім чынам, тут ніякага падвоху няма, а што датычыцца гладка ці не гладка, скажу: любая згода — гэта кампраміс бакоў, і кожны бок імкнецца цывілізаваным метадам бараніць сваю пазіцыю...

— Больш канкрэтна можаце пра гэта расказаць?

— Безумоўна. Былі пытанні, звязаныя з ваеннымі справамі, з нашымі вялікімі даўгамі, з цэнамі. Так што праблем хапае. Але хачу падкрэсліць: мы стварылі дакументы, якія гавораць аб тым, што пачынае дзейнічаць эфектыўны механізм каардынацыі нашых эканомік. У першую чаргу ствараюцца ўмовы для эфектыўнай работы нашых прадпрыемстваў — суб'ектаў гаспадарання. Здымаюцца перашкоды на шляху таварных патокаў, і пачынаюць дзейнічаць дзяржаўныя меры пратэкцыянізму дзеля таго, каб эфектыўна працавала наша эканоміка, — адказаў віцэ-прэм'ер.

Што ж, нам толькі застаецца спадзявацца, што ў Маскве нарэшце лепш пачынаюць разумець: абыякавае стаўленне да праблем сваіх блізкіх суседзяў можа, як гаворыцца, вылезці бокам самой Расіі...

**Леанід ФАДЗЕЕЎ,**
**уласны карэспандэнт "Народнай газеты" ў Маскве.**

## "Амкодор" делает хорошие автобусы

*Высокую оценку получили в автохозяйствах Пинска и Солигорска первенцы-автобусы, собранные на предприятии "Амкодор-Пинск".*

Сейчас в одном из корпусов бывшего домостроительного комбината завершается подготовка к серийному производству белорусских аналогов современного "Икаруса". Рамы, стекла, двигатели и другие комплектующие для автобусов поставляют предприятия Минска, Гомеля, Витебска, Барановичей, Пинска.

**Михаил САВЧЕНКО.**

## Белорусов стало меньше

*По предварительной оценке, численность населения Республики Беларусь на 1 января 1995 года составила 10346 тысяч человек и уменьшилась за год на 21 тысячу, или на 0,2%.*

Сокращается естественный прирост населения. За 1994 год число родившихся уменьшилось на 4% и составило 113 тысяч детей, число умерших за год увеличилось на 0,7% (129 тысяч человек). По данным Министерства статистики и анализа Республики Беларусь, сократилась миграция населения. Если в 1993 году в страну прибыло 86 тысяч человек и выбыло в страны ближнего зарубежья 47 тысяч человек, то в 1994 году прибыло 45 тысяч, выбыло — 49 тысяч человек.

# Выше голову, Армия!

## Заметки с пресс-конференции, которую провел министр обороны Беларуси генерал-полковник Анатолий Костенко

**Андрей ЮДЧИЦ**

Бывший командующий БВО и нынешний министр обороны Беларуси генерал-полковник Костенко — словно два разных человека.

Вспоминаю встречи последнего командующего округом с журналистами. Говорим час, полтора, два. А потом спросишь сам себя: что же ты узнал нового? И обнаруживаешь: ничего такого и не узнал. Закрытость была полная. Армия напоминала государство в государстве. Такое было время, такие тогда были правила жизни и службы.

И вот сидит перед нами тот же генерал-полковник в новой должности — министра обороны. Глупо думать, что он рассказывает нам все "до конца". Однако говорит предельно открыто и прямо. Другое время — другие разговоры.

О чем же рассказал журналистам внешне не меняющийся генерал-полковник Костенко?

О структуре Вооруженных Сил Беларуси.

О количестве корпусов и бригад, местах их дислокации.

Сухопутные войска, например, состоят из трех армейских корпусов.

В бригаде — 4—5 батальонов, общая численность 3—5 тысяч человек. Ранее дивизия имела, заметим, до 14 тысяч человек. Однако нынешняя бригада по огневой мощи прежней дивизии не уступает.

О святая святых говорил министр — численности армии. Так вот, знайте: по состоянию на 27 января 1995 года "под ружьем" у нас — 96 тысяч человек. Плюс рабочие и служащие, всего — 150 тысяч.

Многовато для Беларуси. Так что сокращение неизбежно.

Рассказал министр о военной доктрине Республики Беларусь, реформировании Вооруженных Сил. О международном военном сотрудничестве и позиции Министерства обороны относительно системы коллективной безопасности СНГ и программы НАТО "Партнерство во имя мира".

Вот такие рассекреченные секреты.

Когда-то сказать критическое слово об армии — ого! — попробуй только! Помню, предшественник Костенко на посту командующего БВО пригласил группу журналистов, работающих по военной тематике, отобедать в солдатской столовой, ничуть не уступающей по оформлению самому современному столичному кафе. Сидим так мирно, кушаем, то да сё, беседуем. Вдруг один из нас, что называется, бросил камушек в армейский огород. (Это было время выхода в свет нашумевшей "антиармейской" повести "Сто дней до приказа".) Командующий округом отложил вилку и, как танк, двинулся со своими аргументами на "обидчика". Я хорошо понимал и понимаю этого уважаемого генерала. Такое было время.

Потом пришли другие времена. Когда разрешили быть смелыми — как прорвало! Кто только не обрушивался на армию. Старались друг перед другом. Кусали, отскакивали в сторону, налетали опять. Только в последнее время антиармейский психоз пошел на убыль. Специалисты по шельмованию армии, чаще всего и не нюхавшие пороха, не совершившие ни одного марш-броска, то ли опомнились, то ли устали — диагноз будет известен позже, посмотрим.

И вот сидит перед нами министр обороны — и открыто, прямо рассказывает о трудностях, болячках армии.

Да, армии трудно.

Трудности начинаются с призыва. Возросло нежелание молодых людей выполнять свой конституционный долг по защите Отечества.

Уклонения от воинской службы порой похожи на сцены из дурной комедии.

"Новые белорусы" предложили работнику райвоенкомата крупную сумму, лишь бы избавить своего сыночка от армейской службы. Офицер послал их куда следует. И что же? Откупились, достали кучу справок, по которым их чадо не в строй ставить, а в гроб класть надо. Недоросль издевательски помахал ручкой несговорчивому офицеру РВК.

Министерство обороны очень озабочено тем, что случаи неявки призывников в военкоматы, попытки уклониться от службы, нарушить установленный военный учет не рассматриваются как чрезвычайное происшествие. Одним военным комиссариатам эту проблему не решить.

Возьмем денежное довольствие офицеров. Командир взвода получает 345 тысяч "зайчиков". В два с лишним раза меньше, чем в России.

Кажется, это Наполеон говорил: нельзя жалеть денег на пенсии отставным генералам.

Поняли, в чем смысл?

Смысл в том, что каждый лейтенант должен видеть свою перспективу и служить соответственно.

Знал Наполеон, что говорил.

Тысячи офицеров не имеют достойного защитников Отечества жилья.

Государство пока не справляется с вещевым, продовольственным снабжением своей армии. Значительную часть продуктов Минобороны закупает у коммерческих структур. Есть трудности с новым обмундированием. Что говорить, если даже полковникам папах не хватает.

Преступность и число происшествий в воинских частях снижается. Однако факт остается фактом: в минувшем году по разным причинам погибли около ста военнослужащих.

Не изжита, не подавлена, к сожалению, проклятая "дедовщина". Когда-то не ладили азиаты со славянами. Потом пошли могилевские на гродненских, брестские на гомельских и т.д. Теперь бедные давят на богатых. Армия, что ни говори, — срез общества. На службу ребята приходят с установками, усвоенными "на гражданке".

Хотя, в принципе, дедовщину нельзя оправдать ничем. Ничем! Армия должна быть школой мужества, а не зоной бандитизма и глумления над человеческим достоинством. Родители восемнадцатилетнего солдатика рассуждают — и правильно рассуждают — так: "Командиры, в мирное время мы отдали в ваше полное распоряжение здорового и красивого сына; будьте добры, верните его домой живым, невредимым и возмужавшим". Пусть это станет первым пунктом неписаного Устава взаимоотношений между армией и народом.

Еще много о чем рассказал министр обороны.

Да, трудно армии.

Но она не погибла, как вопит кое-кто.

Она болезненно переживает период своего становления.

Армия выстоит, она просто обязана быть силой. Иначе какой смысл говорить о самой государственности, независимости, суверенитете?

Очень важна постоянная забота государства о своих Вооруженных Силах.

А я гарантии успешного становления нашей национальной армии вижу вот еще в чем.

В Беларуси традиционно уважительное отношение к человеку военному. Лозунг "Народ и армия едины" в нашей республике не был пустой фразой. Тому есть тысячи и тысячи убедительных свидетельств и в годы Великой Отечественной войны, и в послевоенное время. Народная любовь к армии, которая уже в крови, в генах людей, крепче всякой там пакостной писанины и злорадного трепа.

В такой доброжелательной атмосфере наша армия очистится от случайного и наносного, окрепнет и закалится. Это будут действительно Вооруженные Силы с больших букв.

...Закончилась пресс-конференция необычно.

Журналисты, ветераны Вооруженных Сил, военные атташе зарубежных государств поздравили Анатолия Ивановича Костенко с 55-летием.

Чего пожелать министру обороны Беларуси в день его рождения?

Чего пожелать нашим Вооруженным Силам?

Тверже шаг, Армия.

Выше голову, Армия.

БЕЛАРУСЬ. ГОД 1995.



Фота Сяргея ГРЫЦА.

Мнение

## Рожденный "прыгать" взлететь не может?

*В Беларуси продолжается очередной финансовый эксперимент.*

*Как известно, с 1 января в республике прекращены оказание услуг и торговля за иностранную валюту.*

Цель такого решения — снизить ажиотаж на иностранную валюту и, следовательно, увеличить тем самым спрос на белорусские рубли.

Однако, судя по первым трем неделям, этим надеждам сбыться не суждено. В чем тут дело? По просьбе БелаПАН ситуацию комментирует Виктор Шруб, советник по экономическим вопросам инвестиционно-консультационной компании "Системное бизнес-консультирование":

— Во-первых, имеющийся у нас спрос населения на "твердую" валюту — это спрос на средство не платежа, а накопления. В условиях хронически высокой инфляции и отсутствия других равноценных инструментов накопления вложение в доллары остается самым привлекательным способом спасения своих доходов от обесценивания. Таким образом, ожидать падения спроса на иностранную валюту в наших условиях не приходится.

Во-вторых, запрет на использование "долларов-марочек" в розничной торговле объективно ведет к увеличению затрат покупателей на приобретение товара, поскольку курс покупки валюты в обменных пунктах ниже курса эквивалента иностранной валюты при продаже товара. Государство вновь ударило по карману своего гражданина. На микроуровне это стимулирует потребителя ограничивать текущие расходы в пользу накоплений (разумеется, в "твердой" валюте), а на макроуровне приводит к очередному витку цен, что национальную денежную единицу, разумеется, ослабляет. В-третьих, спрос на иностранную валюту со стороны хозяйствующих субъектов-импортеров на валютной бирже может резко возрасти, так как прежний источник ее поступления — выручка от розничной торговли — перекрыт.

Так к каким же результатам ведет этот эксперимент?

**Сергей СНЕГИН.**

## Мы нікому не навязваем сваёй культуры

Шаноўны рэдактар "Народнай газеты"!

Трэба нешта рабіць. Беларусы ніколі і нікому не падказвалі, як жыць. Не навязвалі ні сваіх думак, ні сваёй культуры. У нас жа ёсць сілы, якія праводзяць антыдзяржаўную палітыку, ганьбяць нашу мову, культуру, звычкі, традыцыі. Яны гатовы патаптацца на тварь ўжо ляжачага, змучанага, абяссіленага беларускага народа. Мы для іх не народ, наша мова не мова. Хочацца папярэдзіць: няхай не развязваюць Прыднястроўе ў пакуль што яшчэ больш-менш стабільнай дзяржаве.

**С.ГЕРАСІМЕНКА.**
*г.Мінск.*

ХОЧУ СКАЗАТЬ

## Любой гражданин должен быть уверен, что не кто иной, а именно закон защитит его от начальника-самодура

**Геннадий ЛАВИЦКИЙ,**
**депутат Верховного Совета Республики Беларусь**

***Всем известна аксиома: государство только тогда сильно, когда в нем правит закон, а не его величество чиновник.***

Казалось бы, что с созданием президентской формы правления, наделением исполнительной власти огромными полномочиями у нас человек не будет ходить из кабинета в кабинет, не будет униженно просить и вымаливать то, что ему положено по закону. Увы, пока, как мне кажется, ничего не изменилось.

В большинстве случаев ко мне обращаются избиратели по частным вопросам, которые на добрый лад должны решаться местными органами исполнительной власти. Но скажу прямо: бюрократическую стену порой невозможно пробить даже депутату высшего законодательного органа. Вот несколько примеров.

Более трех лет обращается во все инстанции мой избиратель Гридюшко Виктор Андреевич, незаконно репрессированный в сталинские времена. Дом, конфискованный в 1937 году, и сегодня стоит в Лепеле. Вместо возвращения собственного дома или решения жилищной проблемы В.А.Гридюшко получает отписку за отпиской...

Офицеры Груздев Виктор Федорович и Французов Валентин Борисович, уволенные в запас, уже пятый год безрезультатно обивают пороги: первый — Витебского горисполкома, второй — Минского горисполкома. И все по тому же жилищному вопросу.

А сколько слез выплакали по вине местных начальников вдовы, пенсионерки Борисевич и Яско с моей Лепельщины. Не в состоянии они сегодня за свою скудную пенсию отремонтировать квартиру или развалившуюся печь. Помочь же им никто не спешит, хотя законы обязывают соответствующие органы проявлять должную заботу о таких людях.

Да что говорить о выделении квартиры или ремонте дома. Я могу привести немало примеров, когда человек не может получить то, что, казалось бы, сам сотворил, а точнее — сам нашел. Так, еще в марте 1992 года жители г.Лепеля И.Ф.Галай и его коллеги по работе нашли клад. Как честные люди сдали государству и стали ждать вознаграждения. Но не тут-то было. До сих пор не могут они получить положенное. Бюрократический путь, круглый, как монета, заканчивается теми же самыми отписками.

Какой вывод я хочу сделать? Президент подписал специальный указ о проверке работы органов управления с жалобами и заявлениями граждан. Такой шаг крайне необходим. И хорошо было бы подключить к этой работе депутатов всех уровней. В контакте с народными избранниками служба контроля Президента сможет добиться серьезных результатов.

Необходимо, я считаю, ускорить принятие закона о рассмотрении жалоб и заявлений. Словом, дать решительный бой зарвавшимся бюрократам государство сможет только тогда, когда будет иметь хорошие законы и они будут выполняться.

Чытаючы пошту

# "Звяртаюся да вас як у апошнюю інстанцыю, бо нікому ўжо не веру"

"Паважаная рэдакцыя! Пішу вам упершыню, хаця з'яўляюся пастаянным падпісчыкам і чытачом газеты. Лічу яе самай аб'ектыўнай і справядлівай у Рэспубліцы Беларусь. Таму і вырашыў звярнуцца да вас па дапамогу — больш няма нікому давер'я".

Гэтыя радкі з пісьма Пятра Вікенцьевіча Тумара. Працуе ён вадзіцелем на адным з аўтапрадпрыемстваў г.Мінска. Васемнаццаць гадоў стаяў у чарзе на атрыманне жылля. Нарэшце апынуўся ў спісе першым. І вось, калі сталі размяркоўваць кватэру, прэтэндэнта абышлі — адміністрацыя вырашыла аддаць яе таму, хто стаяў у чарзе за Тумарам, — А.Лукерчык. Яна ж тут працуе адзінаццаць гадоў. Справядліва? Вядома, не. Але Пётр Вікенцьевіч жыве не ў пустыні, а ў сталіцы рэспублікі. Тут нямала арганізацый, якія абавязаны абараніць законныя правы чалавека і паставіць на месца таго ж дырэктара прадпрыемства, калі ён парушыў закон.

Звярнуўся ў Міністэрства транспарту Рэспублікі Беларусь. Прыбылі прадстаўнікі высокага ведамства, устанавілі, што Тумар мае рацыю, адміністрацыя парушыла чарговасць размеркавання жылля, рэкамендавалі кіраўніцтву і прафкаму перагледзець сваё рашэнне. І на гэтым сваю місію палічылі закончанай.

Пабываў гэты рабочы чалавек у Заводскім райвыканкаме, у пракуратуры. І ніхто яму не дапамог, ніхто не давёў яго справу да справядлівага фіналу.

Пасля ўсіх сваіх пакут Пётр Вікенцьевіч напісаў пісьмо ў рэдакцыю як у "апошнюю самую аб'ектыўную і справядлівую арганізацыю, якая існуе ў нашай рэспубліцы" і не без болю ў сэрцы вывеў на паперы такія радкі: "...больш няма ні да каго давер'я".

З жыллёвым пытаннем звярнуўся ў рэдакцыю і Міхаіл Міхайлавіч Марушчык, які жыве ў в. Вараб'ёва Слуцкага раёна. У кватэры, у якой прапісаны з 6 студзеня 1992 года. Прайшло тры гады. Яго вырашылі выселіць з гэтай самай кватэры: маўляў, вы пад гэтым дахам часовыя. Але куды ісці? На руках двое дзяцей, на вуліцы снег, ударылі калядныя маразы. Ці падумаў пра гэта дырэктар Слуцкага лясгаса Гурыновіч? Наўрад ці. Але справу сваю ён зрабіў — падаў у суд. А захавальнікі закона просьбу істца задаволілі. Як цяпер быць аўтару пісьма? Вось ён і піша: "Я гатовы на непрадказальныя дзеянні, таму што я ў адчаі. Дапамажыце!"

Мы шчыра спачуваем Міхаілу Міхайлавічу, але, на жаль, аблягчыць яго становішча не можам. Рашэнне суда рэдакцыя адмяніць не мае права. "Дапамажыце нам. Людзі даведзены да адчаю". Гэта ўжо крык душы жыхароў в. Паперня Мінскага раёна. "Нашы добраўпарадкаваныя кватэры ўжо трэці год не ацяпляюцца. Дырэктар Няхайчык А.Н. гаворыць, што няма сродкаў на паліва, раіць будаваць печы ў кватэрах... Лазня ў в.Паперня не працуе!"

Далей вяскоўцы паведамляюць, што яны былі на прыёме ў райвыканкаме, у чыноўнікаў абласнога маштабу, пісалі Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь. Якія адказы яны атрымалі — чытачы, спадзяёмся, здагадаюцца самі.

Сорак два подпісы стаяць пад пісьмом жыхароў дома N 3 па вуліцы Будаўнікоў г. Слуцка. У гэтым доме таксама няма цяпла.

Адсутнічае яно і ў доме N 48, корп. 3 па вуліцы Якубава (Серабранка) г. Мінска. Аб гэтым расказаў нам ад імя жыхароў шматпавярховай каробкі Цвяткоў Н.А.

Мы рады былі б дапамагчы ўсім, хто прыслаў падобныя скаргі ў рэдакцыю, але ў нас няма такой магчымасці: няма спецыялістаў, тэхнічных і матэрыяльных сродкаў. Усё гэта маюць ЖЭС, ЖРЭА, Мінскія цеплавыя сеткі, Мінскія камунальныя сеткі. Ёсць рай-, гарвыканкамы, Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі. У гэтых арганізацыях сядзяць чыноўнікі, якія адказваюць за цяпло ў нашых з вамі кватэрах. Яны за гэта атрымліваюць грошы. Такім чынам, у іх кабінеты і трэба стукацца. А мы можам толькі накіраваць вашы лісты ў вышэйстаячыя ўстановы, якія павінны паўздзейнічаць на бюракратаў, тых, хто замест справы ўмее толькі адпісвацца. На жаль, такіх начальнікаў, хто не працуе, а толькі займае службовае крэсла, развялося надта многа. Вакол іх трэба ствараць атмасферу грамадскага асуджэння, і рэдакцыя гэтым займаецца таксама, друкуючы лісты чытачоў. Напрыклад, вось гэтыя:

"Звяртаюся ў "Народную газету" як у апошнюю інстанцыю", — так пачынае сваё пісьмо Галушка Васіль Аляксандравіч, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, інвалід другой групы, і працягвае: — Дзесяцігоддзямі, ад Машэрава да Слюнькова, жыхары в. Лошыца-1 Мінскага раёна слёзна прасілі ўладу маючых аб дапамозе — газіфікаваць нашу вёску. Чатыры гады назад лёд крануўся. Але ў Мінгазе адказалі, што падключэнне газаправода непасрэдна да дамоў — гэта ўжо клопаты саміх домаўладальнікаў. Для мяне ж гэта падключэнне — амаль 100 метраў газавых труб! Дзякуй Богу, што Мінгаз не запатрабаваў, каб я падключыўся да Дома ўрада — гэта роўна 6 кіламетраў труб..."

Жыхары вуліцы Савецкай і завулка Савецкага гарадскога пасёлка Мікашэвічы Лунінецкага раёна звяртаюцца праз газету да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі дапамагчы вырашыць праблему з пітной вадой. Санэпідстанцыя раіла не ўжываць тую ваду, якой яны карыстаюцца, рэкамендавала пабудаваць водаправод. З таго часу прайшло чатыры гады, а якаснай вады так і няма..

Настаўнікі Трайчанскай школы Любанскага раёна скардзяцца на тое, што з іхняга населенага пункта няма тэлефоннай сувязі.

Ветэран Вялікай Айчыннай вайны Канстанцін Данілавіч Сямашка з в. Парачаны Лідскага раёна на вайне прабыў, як кажуць, ад званка да званка. "Абяцалі раней устанавіць тэлефон за плату, — піша ён, — пазней — як ільготніку бясплатна, а справа — як у мухі на смале. Нядаўна атрымаў адказ ад абласнога начальства сувязістаў. Пацешылі, што мая чарга трэцяя. А суседзі пад'ялдыкваюць, маўляў, начальства цябе будзе спецыяльна валакіціць да самай смерці. І то праўда. Як казаў Сталін — няма чалавека, няма і праблемы".

Скаргі.Скаргі. Скаргі. Яны ўзнікаюць там, дзе мясцовыя ўлады раўнадушна ставяцца да патрэб і запытаў людзей, адмахваюцца ад іх, як ад надакучлівых мух. Варта чалавеку з'явіцца на парозе кабінета са сваім болем, як адразу ж пачуе дакладна адпрацаваны адказ: "Няма грошай", "Няма матэрыялаў". Чэрствасць, нежаданне падаць руку дапамогі — характэрныя рысы многіх мясцовых кіраўнікоў. Іх больш непакоіць асабісты дабрабыт.

Паважаныя чытачы! Для таго, каб надрукаваць скаргу ў газеце, нехта з супрацоўнікаў рэдакцыі павінен выехаць на месца і пераканацца ў сапраўднасці фактаў, выкладзеных у пісьме. Але скарг столькі, што мы фізічна не можам праверыць кожную з іх. Таму даруйце нам за тое, што не ўсе лісты трапляюць на старонкі газеты.

Заўважу: рэдакцыя не надзелена правамі праваахоўных або мясцовых органаў улады. Мы загадам з рэдакцыі не можам адмяніць, напрыклад, рашэнне суда або дырэктара саўгаса, прымусіць іх рабіць так, а не інакш.

Задача рэдакцыі ў іншым — той ці іншай публікацыяй стварыць адпаведны імідж закасцянелым чыноўнікам, звярнуць увагу вышэйшых устаноў на тое, што творыцца ў падначаленых структурах, на тое, што яны абавязаны ахоўваць правы і інтарэсы грамадзян сваёй рэспублікі. Працей кажучы, добрасумленна выконваць ускладзеныя на іх службовыя абавязкі. А калі скарга чалавека пабывала ў руках старшыні калгаса або сельскага Савета, дырэктара завода або фабрыкі, прайшла праз райвыканкам, а потым паступіла ад таго заяўцеля ў больш высокую інстанцыю, то тут яе ў першую чаргу павінны разглядаць як недапрацоўку, бяздзейнасць, халатнасць службовых асоб ніжэйшага звяна. І рабіць адпаведныя вывады.

Скаргі на верхнія паверхі ўлады — гэта трывожныя сігналы аб бяздзейнасці на ніжэйшых прыступках. І калі меркаваць па многіх і многіх пісьмах у рэдакцыю, то ўнізе пакуль што пануюць анархія і прававое бязмежжа.

**Мікалай ЦАПАЎ,**
**загадчык сектара па ўліку пісьмаў.**

Народная газета

# УКАЗЫ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб узнагароджанні Траўніка А.У. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

За шматгадовую педагагічную дзейнасць, важкі асабісты ўклад у справу прафесійнай падрыхтоўкі моладзі ўзнагародзіць майстра вытворчага навучання Гомельскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча N 35 імя М.Ц.Лынькова ТРАЎНІКА Анатолія Уладзіміравіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

25 студзеня 1995 г.,
г.Мінск
№ 3541-XII

**Аб узнагароджанні Палякова А.К. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

За шматгадовую плённую працу, важкі асабісты ўклад у развіццё вытворчасці ўзнагародзіць генеральнага дырэктара Беларускага шыннага камбіната "Белшына" ПАЛЯКОВА Аркадзія Кірылавіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

25 студзеня 1995 г.,
г.Мінск.
№ 3540-XII

Ведай нашых!

## У "жалезнага Коласа" — беларускія карані

*Іван Андрэевіч Колас — Герой Расіі. Вышэйшую ўзнагароду "За мужнасць і гераізм, праяўленыя пры выкананні спецыяльнага задання ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гадоў" Івану Коласу ўручыў нядаўна ў Маскве Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын.*

Гэта вестка дзякуючы тэлебачанню данеслася і да Лельчыцкага раёна. Як аказалася, у расійскага героя — беларускія карані.

Нарадзіўся Іван Андрэевіч Колас у 1923 годзе ў вёсцы Картынічы. Перад вайной вучыўся ў Мазырскім педвучылішчы. Настаўнічаў на Беласточчыне. Адступаў разам з часцямі Чырвонай Арміі.

У Гомелі трапіў у спецпадраздзяленне. Накіравалі пад Варонеж, у разведшколу.

У цяжкім 42-м Івана Коласа закінулі пад Харкаў. Першыя ж яго разведданыя аказаліся вельмі каштоўнымі. Кола закруцілася... Хутка сярод сваіх разведчык заслужыў імя "жалезнага Коласа". Ён працаваў рэзідэнтам пад псеўданімамі Алег, Пашукоў, Каласоўскі ў Беларусі, Польшчы, Прусіі...

У родным Лельчыцкім раёне арганізаваў тры партызанскія атрады — Астражанскі, Буйнавіцкі, імя Кутузава. У партызанах ваявалі брат Івана Аляксей, бацька Андрэй Арцёмавіч. Пазней атрады аб'ядналіся ў Лельчыцкую брыгаду, якой спачатку камандаваў ён, дваццацігадовы Іван Колас. Дарэчы, у шматлікіх успамінах палескіх партпадпольшчыкаў месца для Коласа не знайшлося.

Летам 44-га "пан Янэк Каласоўскі" быў скінуты з парашутам у паўстаўшую Варшаву. Разам з паўстанцамі ён быў на вуліцах, пад абстрэлам, сярод польскіх пакутнікаў і герояў. Збіраў неабходныя звесткі і перадаваў у цэнтр. На яго палявалі і фашысцкая, і... англійская разведкі. Выходзіў з разбуранага горада разам з варшавянамі каналізацыйнымі тунэлямі.

Ёсць сведчанні, што аб выніках дзейнасці Каласоўскага ў Варшаве Булганін у лепшых танах дакладваў у кастрычніку 44-га самому Сталіну. А ў студзені 1945 года І.Коласа "за спецыяльнае заданне, выкананае ў Варшаве" прадстаўлялі да звання Героя Савецкага Саюза. Але з ЦК, куды папярэдне накіроўваліся дакументы, адказалі: "няма, маўляў, дастатковых падстаў... Між тым імя беларуса Івана Коласа можна смела паставіць у адзін рад з імёнамі самых вядомых разведчыкаў — Р.Зорге, Л.Маневіча, Х.Мамсурава. Падстаў жа ў ЦК, трэба думаць, не было па адной простай прычыне: Іван Колас быў беспартыйным.

Даведаўшыся маскоўскі тэлефон, званю Івану Андрэевічу і ад імя землякоў віншую з вышэйшай узнагародай Расіі. Віншую, вядома, на роднай мове.

— Вельмі прыемна чуць! — па-беларуску адказвае Герой.

Пасля вайны Іван Колас настаўнічаў на Палессі. Уступіў кандыдатам у члены КПСС. "І вось трэба ж было, — успамінаў пазней у інтэрвью "Красной звезде" Іван Андрэевіч, — на адным з палітычных заняткаў ляпнуць, што, маўляў, богачалавекі — легенда, і ў самога вялікага Сталіна лоб не на сем пядзяў. Тут і пачалося. З кандыдатаў, вядома, выкінулі. Гэтым справа не скончылася. Коласа "запрасілі" ў органы, дзе, па яго словах, сказалі адкрыта: калі не пакінеш Беларусь — згноім. Не дапамогуць ні ордэны, ні былыя заслугі. А было ў мяне тады два нашы і два польскія ордэны, 12 медалёў.

Іван Андрэевіч пакінуў Беларусь праз тры гады пасля Перамогі.

Цяпер франтавы разведчык, палкоўнік у адстаўцы, вядомы пісьменнік Іван Колас жыве ў Маскве. Яго пяру належаць кнігі "Варшава ў агні", "Скачок у цемру", "За гадзіну да світання", "Па заданню цэнтра" і многія іншыя. Чытаюць іх і ў Лельчыцах, дзе жывуць сястра і брат Івана Андрэевіча.

Больш падрабязна пра "жалезнага Коласа" і яго беларускіх каранях наша газета яшчэ раскажа.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ,**
**уласны карэспандэнт "Народнай газеты" па Гомельскай вобласці.**

НАВІНЫ МЕДЫЦЫНЫ



Рэспубліканскі цэнтр рэабілітацыі хворых і інвалідаў па зроку створаны ў Гомелі. Гэты статус ён атрымаў з увядзеннем у строй лячэбна-кансультатыўнай паліклінікі. Зараз акрамя яе комплекс мае тры клінічныя аддзяленні на 185 ложкаў, лазерны цэнтр, аддзяленні функцыянальнай дыягностыкі і экстраннай дапамогі і дзіцячы санаторый.

Новы афтальмалагічны цэнтр, створаны па ўзору маскоўскай клінікі вядомага вучонага, спецыяліста ў галіне мікрахірургіі вока С.Фёдарава, стаў першым у Беларусі і трэцім у краінах Садружнасці. Тут будуць аказваць неабходную дапамогу з прымяненнем навейшых тэхналогій і абсталявання пацыентам з усіх куткоў рэспублікі.

❑ *Ала Курыленка — загадчыца новай лячэбна-кансультатыўнай паліклінікі.*

**Сяргей ХАЛАДЗІЛІН,**
**Белінфарм.**
**Фота аўтара.**

Далёкае — блізкае

## Белыя плямы мінулага — чорныя плямы будучыні

Шаноўны чытач!

Уяві, калі ласка, сабе сітуацыю, што назаўтра, прачнуўшыся, ты даведаешся, што ўчарашні дзень (месяц, год) — гэта доўгі змрочны сон, а рэальнае жыццё на Беларусі значна лепшае, ну, напрыклад, у 2 разы! Фантастыка! Замест 200 тысяч рублёў пенсіі — 400 тысяч, замест 500 тысяч заробку — мільён, а цэны — тыя ж самыя!

Ну і што? — скажа чытач, хутка, як гэта звычайна бывае, развітваючыся з успамінамі сна. А ў суседзяў жыццё яшчэ лепшае!..

Таму, прагназіруючы адказ на пытанне выбаршчыкаў "А што б было, калі б Прэзідэнтам стаў Пазьняк?", я з упэўненасцю адказваю: "Жылі б у 2, нават у 3 разы лепей, але незадаволеных было б у столькі ж разоў болей, як сёння". Чаму такое парадаксальнае меркаванне? — спытаецеся вы. Вельмі проста: таму, што, заўважце, сёння, нягледзячы на відавочны правал новай улады, маўчыць люмпен — галоўны выбаршчык Прэзідэнта, маўчыць "5-я калона" (дарэчы, найбольш палітычна актыўная частка насельніцтва), няма правакацый з боку КДБ (я маю на ўвазе правакацыі ў бок урада і КДБ не беларускае, бо беларускага КДБ, на мой погляд, яшчэ проста не існуе), няма дэмаршаў прамысловай мафіі... Уявіце сабе, які вэрхал быў бы ў краіне, як бы сябе паводзіў дэпутат Лукашэнка, каб пры прэзідэнце Пазьняку мы жылі сёння толькі ў 2—3 разы лепей?!

Правільна кажуць людзі: не бывае ліха без дабра. Сапраўды, ніколі яшчэ ў навейшай гісторыі наша грамадства не мела большых доказаў, як сёння, каб назаўсёды развітацца з псіхалогіяй "Иванушки-дурачка". Таму, як бы там ні было, якія б своеасаблівасці псіхалогіі не меў братка-беларус, і яму, беларусу, лепшым дарадцам павінен стаць гістарычны вопыт, вопыт уласны, вопыт балючы, вопыт, на жаль, пакуль што не выкарыстаны.

Мэтай майго распавядання якраз з'яўляецца спроба трошачкі ўзнавіць гістарычную памяць, нагадаць пэўныя падзеі на зямлі беларускай, якія нанеслі велізарныя страты генетычнаму патэнцыялу беларускага грамадства.

Я не збіраюся хаваць сваю (спадзяюся, вядомую чытачам) палітычную прыхільнасць, але галоўным аргументам у размове з вамі бяру не ўласную думку, а дакументы (архіўныя матэрыялы), якія зыходзілі з рук маіх палітычных апанентаў, нашчадкі якіх і сёння кіруюць краінай, вызначаюць стратэгію і тактыку "рэформаў", у тым ліку "зямельнай рэформы".

Усім вядома, што "вялікі перелом" (так бальшавікі акрэслілі пачатак рэпрэсіўнай кампаніі на Беларусі) у нашай рэспубліцы пачаўся ў 1929 годзе.

Які стан беларускага сяла (маецца на ўвазе Усходняя Беларусь) быў на гэты момант, якія канкрэтныя падзеі, рашэнні вызначаюць мяжу гэтага пераломy?

На гэтыя пытанні выдатна адказваюць матэрыялы справаздачы спецыяльнай камісіі ЦКК ВКП(б) пад кіраўніцтвам сп. Затонскага, якая па загаду Сталіна вывучала ў маі—чэрвені 1929 года сітуацыю на Беларусі.

Вось некаторыя вытрымкі (на мове арыгінала) з даклада сп. Затонскага на пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б "Аб абследаванні практыкі нацыянальнай работы ў БССР" ад 27 чэрвеня 1929 года:

**"Основные ошибки партийного руководства КПБ имеют место в области тактики и вытекают из неверной оценки соотношения классовых сил. ...Практическая работа и не только в национальном вопросе, но и в таком важнейшем для Белоруссии деле, как земельная политика, — ясно показывает, что анализ классовых сил в целом ряде случаев, на протяжении ряда лет был ошибочным. В Белоруссии проводилась с санкции ЦК КПБ линия на создание крепкого хуторского хозяйства..., поселковую и окружную форму землепользования. Что из себя представляет Белорусский поселок — видно из постановления пленума ЦК КПБ (январь 1925 года), устанавливающего в качестве оптимального размера для поселка 200 десятин. Таким образом поселок Белоруссии мало чем отличается от хутора; по сути это группа смежных хуторов. Наркомзём прямо рекомендовал строить пятидворки... В общем надо отметить, что Наркомзёмом** (пад кіраўніцтвам сп. Прышчэпава) **хуторизация Белоруссии проведена не за страх, а за совесть..."**

Прашу чытача заўважыць цікавую і вельмі адметную акалічнасць у высновах камісіі, якой цяжка адмовіць у прафесіяналізме: вызначэнне ўзаемасувязі нацыянальнага пытання і зямельнай палітыкі! Але ж пойдзем далей па дакументу:

**"Само крестьянство в массе несомненно тянется на хутора, имея опыт старых столыпинских хуторов... Крестьянину и сейчас кажется, что хутор является основной предпосылкой хозяйственного преуспевания. Противопоставить столыпинскому хутору высшую советскую форму — колхоз в Белоруссии не сумели и наоборот поддерживали иллюзии крестьянина-собственника... Кулацкие элементы несомненно укрепились, в то же время политическая дифференциация белорусской деревни значительно отстает..."**

Прашу чытачоў не спяшацца, удумвацца ў напісанае. Гэта дакумент, які вызначыў жыццё нашых продкаў, наша з вамі жыццё, будучыню цэлага народа на многія дзесяцігоддзі наперад.

А вось вам і выснова: **"Вообще надо сказать, что несмотря на явную ориентацию на буржуазный запад белорусский национализм носит характерные черты чисто кулацкой подоплёки..."**

На гэтым можна было б і спыніцца, бо дакументы — не лёгкае папулярнае чытанне, але наступны змест даклада — проста унікальны і тычыцца ён беларускай мовы:

**"Кулацкое наступление на идеологическом фронте в Белоруссии чувствуется особенно сильно, возможно даже сильнее, чем в других частях Союза. Причем его кулацкое содержание все более и более приобретает национальные формы. Это тем более любопытно, что в Белоруссии до революции национализм широкого распространения не имел... До сих пор на вопрос о национальности в Белоруссии селяне очень часто отвечают: "католик, либо православный". И если называются белоруссами, то от русских сами себя дифференцируют нечетко. Я лично встречал во время поездок как рабочих, так и крестьян, которые заявляли, что хотя они и белоруссы, но по-белорусски говорить не умеют, что им привычнее пользоваться русским языком. В то же самое время они, сами не замечая того, говорили не по-русски, а по-белорусски. Языком белорусским они считают современный язык белорусской книги и газеты, в котором, естественно, им не все понятно, не потому что книжный язык является выдуманным, а потому, что ряд понятий обычных для горожанина еще не вошел в идейный обиход крестьянских масс..."**

Звяртаючы вашу ўвагу на апошнія словы, хачу адзначыць пэўную павагу да беларускай мовы з боку старшыні камісіі, якая мела мэту якраз адваротнага сэнсу. Гэта асабліва цікава сёння, калі ў параўнанні з выказваннямі некаторых нашых кіраўнікоў (якія, дарэчы, канстытуцыйна абавязаны абараняць мову), гэтыя словы сп.Затонскага з 30-га года ўспрымаюцца як "чарговая акцыя "бээнэфаўцаў"!

Але вернемся да галоўнай тэмы — калектывізацыі.

Як вы бачыце па дакументах, нават гэтая мэтанакіраваная маскоўская камісія адзначыла, што землеўпарадкаванне на Беларусі пад кіраўніцтвам Прышчэпава праводзілася "не за страх, а за совесть".

Сялянства Беларусі, якое складала амаль 85% насельніцтва, пачынала жыць заможна, нават лепш, як у даваенны перыяд ці першыя гады нэпа. Расла нацыянальная самасвядомасць людзей.

Але гэта, напэўна, больш за ўсё і непакоіла сапраўдных бальшавікоў. Было відавочна, што праз якое дзесяцігоддзе кіраваць такой свядомай і заможнай масай будзе не проста.

З сярэдзіны 1929 года па ініцыятыве Сталіна (пасля працы вышэйназванай камісіі) пачалося фарсіраванне калектывізацыі, якая вельмі хутка перайшла ў жорсткую, прымусовую, знішчальную форму.

Вось вытрымкі з загаду ўжо мясцовага паходжання, датаванага 6 лютага 1930 года і падпісанага сакратаром ЦК КП(б)Б сп.Геем:

**"Зусім сакрэтна.**

**Усім акружкомам і райкомам КП(б)Б.**

**Пры правядзеньні мерапрыемстваў па ліквідацыі кулацтва, як клясы, Цэнтральны Камітэт КП(б)Б прапануе ўсім партыйным арганізацыям кіравацца наступным:**

**... У мэтах рашучага падрыву ўплыву кулацтва на паасобныя пласты бядняцка-серадняцкіх мас і бязумоўнага падаўлення ўсялякіх спроб контррэвалюцыйнага супроцьдзейнічаньня з боку кулакоў праводзімым савецкаю ўладаю мерапрыемствам, павінны быць прыняты ў адносінах кулакоў наступныя меры:**

**а) першая катэгорыя — гэта контр-рэвалюцыйны кулацкі актыў — павінен быць немедлена ліквідаваны шляхам заключэння ў конц. лягеры.**

**б) другую катэгорыю павінны скласьці астатнія элементы кулацкага актыву, асабліва з найбольш багатых кулакоў і паў-абшарнікаў, якія падлягаюць высылцы ў аддалёныя мясцовасьці Саюзу ССР.**

**в) у трэцюю катэгорыю ўваходзяць астатнія кулацкія гаспадаркі, якія застаюцца ў межах раёну, акругі, альбо рэспублікі, але падлягаюць рассяленьню на новых, адводзімых ім за межамі калгасных гаспадарак вучастках горшай зямлі..."**

(Заканчэнне на 4-й стар.)

**Аб узнагароджанні групы работнікаў Дзяржаўнай судова-медыцынскай экспертызы Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

За шматгадовую плённую дзейнасць у галіне аховы здароўя і ў сувязі з 65-годдзем судова-медыцынскай службы краіны ўзнагародзіць Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

БАТУРА Сафію Ільінічну — лабаранта аддзела Рэспубліканскага бюро.

ВАЛАТОЎСКАГА Аляксандра Уладзіміравіча — урача, загадчыка Ашмянскага аддзялення Гродзенскага абласнога бюро.

ЛЕЎЧУКА Аляксандра Васільевіча — судова-медыцынскага эксперта Магілёўскага абласнога бюро.

СПОГАР Яўгенію Адамаўну — старшага фельчара-лабаранта Мінскага гарадскога бюро.

ЧАРАНКЕВІЧА Пятра Мікалаевіча — загадчыка Баранавіцкага міжраённага аддзялення Брэсцкага абласнога бюро.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

25 студзеня 1995 г., г.Мінск. № 3543-XII

Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб датэрміновым спыненні паўнамоцтваў дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Казяка В.І.**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

У сувязі з назначэннем дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **Казяка** Віцэнты Іванавіча старшынёй Шчучынскага раённага выканаўчага камітэта Гродзенскай вобласці і ў адпаведнасці з артыкулам 92 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь лічыць паўнамоцтвы дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Астрынскай выбарчай акругі N 272 Гродзенскай вобласці Казяка Віцэнты Іванавіча датэрмінова спыненымі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

17 студзеня 1995 г., г.Мінск.
№ 3528-XII

Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб зацвярджэнні справаздачы аб выкананні рэспубліканскага бюджэту за 1993 год**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць справаздачу аб выкананні рэспубліканскага бюджэту за 1993 год па даходах у суме 2106904,4 млн. рублёў і па расходах — 2500282,2 млн. рублёў з перавышэннем расходаў над даходамі ў суме 393377,8 млн. рублёў.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

17 студзеня 1995 г., г.Мінск.
№ 3530-XII

САМБО — спаси и сохрани себя сам

Вас инструктирует капитан Эдуард Драко

*Выпуск 8*

***ОТ РЕДАКЦИИ***

***В минувшем году было семь выпусков раздела "Самбо". И вот сегодня — восьмой.***

***Объясним нашим новым читателям смысл этой рубрики.***

***Ее расшифровка — спаси и сохрани себя сам — говорит о направленности предстоящих публикаций.***

***Как преодолевать опасности, подстерегающие нас на каждом шагу?***

***Как самому защитить себя от бандита и хулигана?***

***Как поступить в экстремальной бытовой ситуации?***

***Как сориентироваться при невероятном несчастном случае?***

***Рубрику будет вести капитан Эдуард Драко.***

***С вашей помощью, уважаемые читатели "Народной газеты". Потому что сама жизнь — великий учитель. Вы, наши читатели, знаете столько реальных эпизодов, случаев, историй! Расскажите их другим. Это поможет нам вместе жить и выживать в такое трудное время, как сейчас. Доверительность и конфиденциальность гарантируем.***

***Регулярно читая раздел "Самбо", вы будете иметь что-то вроде домашнего пособия по самозащите, личной безопасности и выживанию.***

***Хотя лучше всего — дай вам Бог надежного здоровья и благополучия!***

## Вы собрались в парк...

Есть люди, которые стесняются показаться кому-то слишком осторожными.

Не надо этого бояться.

Осторожность, предусмотрительность, собранность — не трусость.

Надо уметь предвидеть возникновение опасных ситуаций, по возможности избегать их или свести до минимума нежелательные последствия.

Случаи насилия, грабежа могут происходить, скажем, в парках.

Поэтому, отправляясь туда, надо запомнить кое-какие простейшие правила...

● **Не ходите в парк в темное время суток — правило первое и основное.**

● **Избегайте прогулок по малолюдным аллеям и тропинкам — это напоминание касается прежде всего влюбленных. Будете искать укромный уголок, а можете найти неприятности на свою голову.**

● **Выбирайте скамейки, расположенные на открытом месте, желательно без зарослей с тыловой стороны.**

● **Не сидите и там, где кустарник закрывает обзор спереди.**

● **Если у вас создалось впечатление, что вас преследуют, быстро, но не бегом удаляйтесь, пока кого-нибудь не встретите. Никогда не бегите, оказавшись в такой ситуации, так как демонстрация своего страха — еще один аргумент в пользу насилия, если оно уже задумано преследователем. Это может стать решающим фактором для какого-нибудь маньяка или человека с неустойчивой психикой. Именно бег может возбудить вкус к "охоте".**

Если человек умеет распознавать источники опасности и быть всегда начеку, ему легче защитить себя или, по крайней мере, он не будет застигнут врасплох.

Очень часто потенциальная жертва — рассеянный и неуверенный в себе человек...

***Тел. координатора раздела 68-26-78.***

Верить — не верить?

## Тайные знаки судьбы

***Фортуна, богиня случая, счастья и несчастья в римской мифологии, всегда изображалась с повязкой на глазах, рогом изобилия в руках, верхом на шаре или колесе. Колесо символизировало изменчивый характер богини. А повязка подчеркивала, что Фортуна не видит, кого осыпает милостями из рога, кого карает. Случай слеп, считали древние римляне. Но так ли это? Некоторые читатели сообщают о странных закономерностях, подмеченных ими в проявлении "злого рока".***

"Говорят, что несчастья случаются чаще всего по тринадцатым числам, — пишет в комиссию "Феномен" житель города Азова из Ростовской области В.Манчужников. — Но на меня эта примета почему-то не распространяется. Самый несчастный день в году у меня — это 21 февраля. Без неприятностей (причем не мелких, на которые можно наплевать и забыть, а крупных) этот день не обходится. Судите сами:

21 февраля 1992 года. Я шел на работу, и на меня упала гигантская сосулька, сломала мне ключицу.

21 февраля 1993 года. Неизвестные угнали от дома мою машину, и позже ее обнаружили вдребезги разбитой.

21 февраля 1994 года. За обедом в куске черного хлеба мне попалась гайка, о которую я сломал два передних зуба.

Можно было бы начать этот перечень с более ранних лет. Поверьте, там то же самое. С ужасом жду грядущего февраля. Что уготовила мне судьба на этот раз?..

Сетует на странные капризы судьбы и Лариса Т. из Иркутска. Она пишет:

"Сколько я знаю своего мужа, с ним вечно что-то происходит, причем в самый ответственный момент. За день до нашей свадьбы у него разыгрался аппендицит, и "медовый месяц" он провел в больнице, так как после операции случилось нагноение. За десять лет совместной жизни всего один раз собрались выбраться отдохнуть к морю. Так муж умудрился по дороге отстать от поезда, и я с двумя малыми детьми неделю (!) караулила его на сочинском вокзале, пока он добирался на перекладных. Ко всему прочему оказалось, что он потерял деньги и паспорт.

Таких примеров могу привести множество, просто это самые яркие. И вот что обидно — свекровь все валит на меня. Она называет меня ведьмой и считает, что я "сглазила" ее сына, мол, до встречи со мной у него все было нормально. В последнее время и муж с ней заодно. Говорит, что стоит нам поругаться, как у него обязательно что-то случается на следующий день. То на работе авария, то на автобусной остановке хулиганы в глаз дадут... Я и сама заметила такое совпадение. Вот и спрашиваю: может ли жена сглазить своего мужа? Или наши внезапные ссоры — знак свыше, предупреждающий о более крупных неприятностях?"

Жительница Твери Маргарита Милошенко усматривает "предупредительные знаки" в другом:

"Несколько раз мне снился один и тот же сон — черная кобылица, мчащаяся по заснеженной равнине. И каждый раз вскоре приходила телеграмма о смерти кого-нибудь из близких мне людей. Вы можете смеяться, но никто на свете уже не убедит меня, что это просто случайное совпадение. Четыре сна, четыре смерти. Жестокое подтверждение существования чего-то высшего, что не доступно пониманию человека..."

Не все наши читатели безвольно сетуют на судьбу. Некоторые проявляют недюжинную изворотливость ума, пытаясь завоевать благосклонность Фортуны. Москвич Сергей Кастромин рассказывает:

"Я где-то вычитал, что Фортуна не любит жадных. Теперь я, когда заранее знаю, что предстоит столкнуться с трудностями, совершаю один и тот же ритуал — выхожу к метро и подаю нищему деньги. И, вы знаете, помогает! Один раз даже вышел такой курьез. Я уже на работе вспомнил, что забыл дома утюг включенным в электросеть. Отпросился у начальства и бросился домой, а это другой конец Москвы! По дороге отдал встретившемуся нищему пятисотенную бумажку и загадал, чтобы все кончилось хорошо. Так и вышло. Дома обнаружил, что от утюга уже начала тлеть обивка гладильной доски. И тут случилось выпрашиваемое мной чудо. У соседа сверху залило ванну. Вода протекла и ко мне. С потолка обвалился огромный пласт намокшей штукатурки прямо на утюг — и огонь прибило, и шнур из розетки выдернуло. Кто-то скажет — ничего себе везение, сплошные неприятности! Ан нет. Как минус, помноженный на минус, дает плюс, так тут одно несчастье нейтрализовало другое. Куда хуже было бы, если бы они случились порознь, скажем, с промежутком в один день..."

Еще один житель столицы, инженер А.Пельцер, тоже считает, что "подобрал ключик к счастью и удаче". Секрет, по его мнению, кроется в... теле паука! Вот что он пишет:

"Вспомним, что во все времена у многих народов живыми вестниками удачи считались пауки. Профессиональные игроки и вообще люди, которым часто приходилось испытывать судьбу, буквально благоговели перед этими созданиями, испытывая к ним самые искренние чувства уважения и мистического страха. "На счастье" пауков носили в специальных коробочках и медальонах или заменяли эти талисманы специальной татуировкой, изображающей паука. Из уст в уста в игорных домах Монте-Карло передается легенда о везучем игроке, который выиграл не один миллион долларов. У него в стеклянной баночке сидел паук, а дно было выкрашено в два цвета — черный и красный. И в зависимости от того, на какое поле переползал живой "вестник удачи", на то поле и ставил игрок. И, как утверждают, практически всегда выигрывал...

Кстати, известный английский биолог профессор У.Бристоу, много лет посвятивший изучению пауков, тоже был свято уверен, что эти насекомые тесно связаны с удачей. В воспоминаниях о нем приводится такой пример: "Однажды профессор крупно проигрывал в покер. Он все повышал и повышал ставки, но карта не шла. Тогда Бристоу ошарашил присутствующих тем, что смахнул со стены тегенарию (распространенный паук, живущий в квартирах) и проглотил ее. "Ну держитесь теперь!" — сказал профессор. И точно. Вскоре он выиграл все деньги, что были на руках у партнеров. "Это самый надежный способ обогащения, — заверял друзей биолог. — Надо только преодолеть отвращение и проглотить восьминогую пилюлю счастья и удачи..."

### От комиссии "Феномен":

По-разному можно относиться к этим историям. Можно списать все это на причуды Его Величества Случая. Тут все вроде бы ясно, не надо искать природу неведомых сил, управляющих процессами "удачи — неудачи". И все же некоторые специалисты попытались разобраться в этой задаче. Дело в том, что наша жизнь, как говорится, "похожа на зебру", то есть состоит из "черных" и "белых" полос. А это наводит на мысль о возможном существовании некоего природного явления, обусловливающего факты везения и невезения.

Как известно, все физические процессы подчиняются законам цикличности. Замечено было, что, когда в игорных домах наблюдались максимальные выигрыши, на планете происходили и другие любопытные процессы — например, более интенсивно развивался планктон... Такое впечатление, что все живое испытывало благотворное влияние неведомых сил. Исследователи назвали это "полем Фортуны". Логика экспериментов говорила о том, что должен в человеке существовать и скрытый "механизм", реагирующий на сигналы этого поля... Идут эксперименты в этой области и в лаборатории "Феномена", действующей при отделе информации газеты "Труд". Если будут положительные результаты, мы обязательно расскажем о них.

Впрочем, есть и еще одна точка зрения, весьма распространенная. Она гласит: "Над всеми Бог, он и управляет земными судьбами и событиями"...

Кто прав в этом споре? У нас ответа нет. Выбирайте объяснение по своему разумению. Заметим только, что люди, верящие в существование над ними высших сил, живут обычно более счастливо. Хотя бы потому, что они фаталисты и уверены: им есть к кому обратиться за помощью в трудную минуту, эта помощь придет, если они того заслужили...

**Игорь ЦАРЕВ.**
*("Труд".)*

